*Мілагучнае, звонкае, сьпеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.net **Выданьне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС»** №1(11) сакавік 2001 г.

## Праект БНР

У ЗША губэрнатарам штата Нью-Ёрк Джорджам Патакі 25 сакавіка абвешчана Днём незалежнасьці Беларусі. Традыцыйна ў гэты дзень прэзыдэнт Злучаных Штатаў віншуе беларускую дыяспару з нацыянальным сьвятам.

У чарговую гадавіну абвяшчэньня Беларускае Народнае Рэспублікі няма ахвоты разважаць, чаму БНР ня стала паўнавартаснай дзяржавай. На тое было безьліч прычынаў. З усіх гістарычных аспэктаў падзеі самым цікавым падаецца толькі адзін. У рэвалюцыйны час, калі ніхто не зважаў на фармальна-праватвыя тонкасьці любога пытаньня, нават такога сур'ёзнага, як стварэньне дзяржавы, абвяшчэньне БНР было аформлена максымальна карэктна. Гэта рабілі ворганы, створаныя Прэзыдыўмам Усебеларускага зьезду.

Легітымнасьць гэтага кроку была на некалькі парадкаў вышэй, чым бальшавіцкага праекту БССР, абвешчанага на VI партканфэрэнцыі Паўночна-Заходняга аддзяленьня РКП(б). Толькі ўявім гэтую сытуацыю ў сучасных умовах: ня проста нейкая партыя, а нават канфэрэнцыя яе рэгіянальнай філіі абвяшчае на пэўнай тэрыторыі дзяржаву. Усьведамляючы хісткія падставы свайго ўтварэньня, камуністы, на словах не вызнаючы сувэрэнітэт БНР, мусілі першым жа бэсэсэраўскім загадам адмяніць усе пастановы Рады БНР, а потым дабіваліся ў 20-ыя гады яе самароспуску.

Яшчэ больш істотнае пытаньне: чым 25 сакавіка ёсьць для нас. Падобна, што БНР ёсьць хутчэй сымбалем, ідэяй, канцэпцыяй, праектам нацыянальнае дзяржавы, не рэалізаваным да канца, не завершаным дагэтуль. Гэтую канцэптуальную каштоўнасьць праекту БНР мела на ўвазе Ларыса Геніюш, калі ўпарта адмаўлялася прымаць грамадзянства СССР (а разам зь ім усе савецкія сацыяльныя гарантыі), заяўляючы,




што лепей памрэ грамадзянкай БНР (якой яна, дарэчы, дэ юрэ не зьяўлялася, бо была да вайны польскай падданай).

Сёньня, як ні дзіўна, гадавіну БНР, дзяржавы сацыялістычнага кшталту, абвешчанай сацыялістамі, адзначаюць усе нацыянальныя сілы й партыі, у тым ліку правыя, бо для іх яна па-за межамі партыйна-ідэалягічнае палемікі. 25 сакавіка ёсьць сапраўды Днём волі. Такое найменьне пасуе да самой сутнасьці падзеі, што адбылася ў будынку на сучаснай плошчы Свабоды (як сымбалічна!) 83 гады таму. Гэта было вызваленьне, атрыманьне новых пэрспэктываў, шанец на стварэньне ўласнае нацыянальнае дзяржавы.

БНР, канешне, ня першая беларуская дзяржава. Раней яе былі пляменныя княствы й ВКЛ. Але ўсе гэтыя папярэднікі былі створаныя ў рамках сярэднявечнай парадыгмы: на фэадальным падмурку, наднацыянальнай прыкмеце, дзе карпаратыўная й саслоўная салідарнасьць пераважала над нацыянальнай сьвядомасьцю.

Ніводную сярэднявечную дзяржаву ў сьвеце нельга назваць нацыянальнай, і ніводная зь іх не ствралася па прынцыпе аб'яднаньня зямель, заселеных адной этнічнай групай. Канцэпцыя нацыянальнае дзяржавы зьяўляецца толькі ў XIX стагоддзі, са зьяўленьнем уласна нацыяў, з моманту, калі яны пачалі ўсьведамляць свае нацыянальныя інтарэсы.

Нават такі незавершаны праект, як БНР, немагчыма назваць непасьпяховым. Не было б Беларускае Народнае Рэспублікі — бальшавікі дакладна не пайшлі б на абвяшчэньне нават такога марыянэтачнага ўтварэньня, як БССР. А не было б БССР — не існавала б зараз і нашае паўліпавае незалежнасьці.

Пасьля распаду Савецкага Саюзу й утварэньня на ягоным месцы незалежных дзяржаваў, урад УНР самараспусьціўся й перадаў ураду сучаснай Украіны свае рэгаліі. Аналягічныя перамовы вяліся й з урадам БНР у часы Кебіча.

Але Кебічу перадаваць рэгаліі ніхто не зьбіраўся, бо сёньняшняя Рэспубліка Беларусь — гэта, канешне, не працяг праекту БНР, праекту нацыянальнае дзяржавы. Але патэнцыйна яна можа разьвіцца ў такі праект. І тады мэмарыяльная шыльда «была абвешчана незалежнасьць», якая ўжо каля дзесяці гадоў пыліцца ва ўправе БНФ, займе сваё месца на сьцяне камяніцы, што на плошчы Свабоды. А пакуль — са сьвятам вас, дарагія беларусы Амэрыкі!

*АЛЯКСАНДАР КАВАЛЬСКІ, «Згода»*

## НУЛЬ-НУЛЬ

Сьвяточныя дні аказаліся насычаныя імпрэзамі. Передсьвяточная ліхаманка ў Менску пачалася з традыцыйнай выставы мастацкай суполкі «Пагоня». На ёй прадставілі творы 11 жывапісцаў ды графікаў. Экспазыцыя мае выразную назву — «У новае тысячагодзьдзе з новым прэзыдэнтам». Праграму «пагонеўцаў» працягвалі гісторыкі, якія падрыхтавалі круглы стол па пытаньнях барацьбы за незалежнасьць.

24 сакавіка ў Нямецкім адукацыйным цэнтры адбылася ўрачыстая цырымонія падпісаньня Акту незалежнасьці, прынятага летась на Ўсебеларускім зьездзе за незалежнасьць, сустаршынямі аргтамітэту зьезду — Радзімам Гарэцкім, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным і Анатолем Грыцкевічам. У гэты ж дзень у сталічным касьцёле Сьвятых Сымона і Алены адбыліся ўрачыстасьці, прысьвечаныя выхаду 500-га нумару газэты «Наша Слова». А ўвечары ў клюбе «Акварыюм» — незалежніцкая музычная рок-імпрэза. У Полацку Сяргея Астраўца ганаравалі прэміяй «Гліняны Вялес». У Вільні, Празе, Варшаве, Нью-Ёрку, Беластоку, Рызе, Лёвдане, Брусэлі, Парыжы, Кліўлендзе і Маскве прайшлі сьвяточныя бяседы і набажэнствы.

Завершыў праграму сьвята вечаровы пэрформанс 25 сакавіка ў Чырвоным касьцёле

*працяг на ст. 2*

з выставамі жывапісу Генадзя Драздова і Алеся Пушкіна, выступленьнямі паэта Андрэя Хадановіча; сьпявачкі Тацяны Цыбульскай, бардаў Андрэя Мельнікава і Аляксея Галіча, музыкаў Алега Пузыні і Скіргайлы Палянэцкага ды фольк-групы «Гуды».

Апазыцыя ж правяла чарговыя шэсьці ў Менску.

Вызвольны Рух параскідаў улёткі па скрынках з заклікам прыйсьці апоўдні на плошчу Незалежнасьці. Адтуль калёна пазьнякоўцаў (пад тысячу чалавек) рушыла па праспэкце, але міліцыя не пусьціла іх.

Акцыя дэмакратычнай апазыцыі пачалася а 14-й на Юбілейнай плошчы. Там сабралася пад 5 тыс. чалавек. Паколькі ўся гара вакол плошчы была ачэпленая міліцыяй, дэманстранты пасунуліся па вул. Танка, а затым — па Дразда. Праспэкт Машэрава быў перагароджаны спэцназам, і міністар Навумаў заклікаў усіх рушыць у бок плошчы Бангалор. Але людзі вырашылі пасвойму: павярнулі да помніка гораду-героя, «бабы з трубой». На гэтай харошай гары і адбыўся хуткацечны мітынг. Вячаслаў Сіўчык паабяцаў на ім. што ніколі болей аггазыцыя не павядзе народу на Бангалор.

На разгон сходу — небясьпечнага сымболікай месца — за некалькі хвілінаў сьцягнулі некалькі тысячаў амонаўцаў, якія і атакавалі мітынгоўцаў. Тут пасьля кароткіх сутычак затрымалі дзясятак чалавек.

Акцыі праходзілі нуднавата, мэханічна, без імпэту, бяз кветак і упрыгажэньняў, нават скандавалі і сьпявалі мала. Лявон Вольскі прыйшоў на сьвята ў акулярах з тоўстымі шкельцамі, з прычэпленымі вусамі і плякацікам «Менш мульцікаў на БТ», а партыйцы — са звыклымі транспарантамі. Людзям карцела сьвята, а палітычныя лідэры гэтага не адчулі. Думаецца, не за адным сьвяточным сталом ім гэта згадалі.

*Мікола, «Наша Ніва», фота Irex/ProMedia*



# Зубр дае «отпор»




Апошнім часам у гарадох Беларусі на сьценах і платах паўсюдна зьявілася слова «Зубр». Нязграбныя літары, сьпешна выведзеныя чырвонай фарбай з балёнчыка, разьмешчаны па ўсіх раёнах і Віцебска таксама. Людзі, едучы на працу ў грамадзкім транспарце, гледзячы ў вокны, могуць пабачыць да дзесятка такіх міні-графіці, што, зразумела, выклікае натуральную цікаўнасьць — што ж гэта за «Зубр», чаго хоча і нашто паганіць вуліцы? А каб яшчэ проста вуліцы: можна неаднаразова сустрэць і спаганеныя камэрцыйныя кіёскі, пафарбаваць якія нанова будзе каштаваць уладальніку пад сорак тысячаў рублёў.

Доўга ніхто, нават актывісты дэмакратычнага руху, ня мог задаволіць цікаўнасьць да гэтай зьявы. Узьнікалі розныя чуткі — хтосьці казаў, што ЗУБР расшыфроўваецца як «За Украину, Белоруссию, Россию», хтосьці пераконваў, што гэта новая беларуская фашыстоўска-шавіністычная арганізацыя. Але ня так даўно чуткі былі разьбіты — у рэдакцыі менскіх газэтаў паступіла інфармацыя пра маючую адбыцца прэсавую канфэрэнцыю арганізацыі «Зубр», якая сапраўды была праведзена ў прызначаны час у прызначаным месцы — проста на вуліцы. Да шматлікіх журналістаў выйшаў звычайна апрануты малады чалавек, выцягнуў зялёную паперыну з тэкстам прэсавага рэлізу, зачытаў яго, не падымаючы вачэй угору, і, не адказваючы на пытаньні, хутка сышоў. Гэта быў першы выхад «Зубра» на сьвет. Далей пачалася больш канкрэтная справа — зубраняты перыядычна арганізоўваюць розныя кшталту акцыі ў падтрымку зьніклых у Беларусі апазіцыйных палітыкаў. Справа, канечне, карысная, але шляхі яе рэалізацыі трохі зьдзіўляюць. Ці гэта можна назваць нармальным, калі свае ўлёткі арганізацыя (што, дарэчы, ня мае дзяржаўнае рэгістрацыі) раскідвае ў тэатрах і опэрах падчас спэктакляў? Праўда, акрамя таго, ладзяцца яшчэ і звычайныя мітынгі, адзін зь якіх нават быў праведзены ў Віцебску, але так і ня быў заўважаны грамадзкасьцю. Акрамя таго зубраняты актыўна расклейваюць па вокнах агітацыйныя налепкі. Іхную працу па ўласнай раскрутцы давяршае наяўнасьць высокаякаснага інтэрнэт-сайта па адрасе www.zubr-belarus.com, кошт якога па ацэнцы спэцыялістаў ВСМ «Верас» складае ня меней за 200 даляраў.

Як «Верасу» стала вядома са сталічных крыніцаў, «Зубр» створаны па ўзоры югаслаўскага моладзевага «Отпора», з той толькі розьніцай, што апошні ёсьць сапраўды масавай і адданай справе арганізацыяй кшталту беларускага «Маладога фронту». Як кажуць самі зубраняты, іхная арганізацыя, хутчэй за ўсё, праіснуе толькі да сканчэньня прэзыдэнцкіх выбараў, пасьля чаго самараспусьціцца.

*Яраслаў Манцэвіч, «Верас»*




**Зьмест прэсавага рэлізу грамадзкага аб'яднаньня, што называе сябе «Зубр»:**

Уважаемые журналисты!

Вы присутствуете на первой пресс-конференции движения «ЗУБР». Это движение нового типа. Мы называем себя экологическое сопротивление «ЗУБР».

Злодеяния диктаторского режима всем вам хорошо известны — это похищения людей, давление на журналистов, уничтожение языка и культуры народа Беларуси, пытки и издевательства над заключенными. Миллионы людей доведены до нищеты.

Мы обращаем ваше внимание и на то, что диктатура Лукашенко совершает преступление против Природы. Подручные диктатора бесконтрольно уничтожают наше богатство — леса Беларуси. В Беловежской и Налибокской пущах, Березинском, Браславском и других заповедниках ведётся бесконтрольная вырубка деревьев. Цель — самым простым способом набить свои карманы.




Авторитарные правители всегда были врагами Природы. Они испытывают к лесу необъяснимую ненависть и страх. Диктаторы Латинской Америки вырубали тропические леса. Гитлеровские фашисты варварски сжигали зелёные массивы. Сталин согнал в ГУЛАГ на лесозаготовки миллионы людей. Лукашенко стремится уничтожить пущи Беларуси — естественные лёгкие Европы. Он хочет превратить страну в радиационную пустыню.

Под угрозу ставится существование исполина белорусской природы — ЗУБРА. ЗУБРЫ — не коровы. ЗУБРЫ не живут в неволе. Естественная среда обитания ЗУБРА — лес. Естественная среда обитания человека — свобода. Лукашенко уничтожает леса и душит свободу.

Лес помог партизанам спасти Беларусь от порабощения. Сегодня мы будем защищать и наши леса, и нашу свободу!

Мы отрицаем насилие. Наш путь — ненасильственное сопротивление диктатуре. Сотни ЗУБРОВ — патриотов Беларуси — начали эту работу. Против четверых наших товарищей власти возбудили уголовные дела. Причина — надписи «ЗУБР» на стенах домов в городах Беларуси. Но сопротивление режиму будет нарастать с каждым днем.

Разграблению природных богатств будет положен конец!

Диктатура развалится!

Будем вместе, и в этом году Беларусь станет свободной!

# НАСТОЯЩИЙ ПОЛКОВНИК

Начавшийся в Ростове-на-Дону суд над полковником российской армии Юрием Будановым — первая попытка осудить за военные преступления, совершенные на территории Чечни, российского военнослужащего.

Глупо надеяться, что дело Буданова — единственный случай совершения преступлений российскими военными в отношении мирного населения Чечни. Однако именно Буданову предстоит ответить за всех. Он обвиняется по трем статьям УК РФ: 105 (убийство), 126 (похищение человека) и 286 (превышение служебных полномочий). В окончательном варианте обвинения отсутствует факт изнасилования, предъявленный на первом этапе следствия.

Изменился и тон публикаций по делу Буданова в российских СМИ. Больше не звучат заявления типа: «подонок, который позорит российского армию». На их место пришли — «патриот России, свято дорожащий своей воинской честью». Все это вызывает желание поближе познакомиться с данным делом.

160-й полк был расположен невдалеке от небольшого чеченского села Танги. Никаких крупных сражений в том районе не было. Однако скучать военнослужащим не приходилось. Буданов периодически устраивал налеты на близлежащие деревни, перетряхивая дома, вид которых говорил, что там можно поживиться. Благодаря усилиям полковника местные жители прозвали его полк «звериным».

15-16 марта 2000 года Буданов со своей свитой устроил выборочный обыск у некоторых жителей села. Если в момент обыска никого не было дома, Буданов не гнушался обычным мародерством. Так был разграблен дом начальника регионального (пророссийского) УБОП Захада Баталова. То же повторилось 25 марта. На этот раз о беспределе узнал глава пророссийской администрации Джамбулатов, дежуривший в то время на избирательном участке. Он с комендантским взводом направился в село, надеясь как-то успокоить взбесившегося полковника. Но глава администрации был прилюдно избит, российские солдаты из его охраны разоружены. «А вздумаете жаловаться, я вам здесь второе Комсомольское сделаю», — заявил собравшимся местным жителям Буданов.

Следующий раз Буданов появился в селе в ночь с 26 на 27 марта. Вместе с тремя военнослужащими срочной службы — рядовым Егоровым, сержантами Ли Еншоу и Григорьевым — он похитил 18-летнюю Хеду Кунгаеву. Около 3-х часов ночи Буданов задушил девушку и отдал приказ военнослужащим закопать тело. Что же происходило в течение этих часов, сейчас выясняет суд. По версии следствия, Буданов несколько часов допрашивал девушку, а затем хладнокровно ее задушил.



Буданов признает, что задушил Кунгаеву, но настаивает, что сделал это в состоянии аффекта. Повреждения, которые вначале были приняты за следы изнасилования, взял на себя один из срочников, закопавших тело. Его действия были квалифицированы как глумление над трупом, а сам он незамедлительно попал под амнистию.

Начальник медицинского отдела 124-й Центральной лаборатории медико-криминалистической идентификации МО РФ капитан Владимир Ляпенко, проводивший единственную экспертизу трупа Кунгаевой, не имеет никаких сомнений: травмы, возникшие в результате изнасилования или насильственных действий сексуального характера, однозначно характеризуются как прижизненные, и получены они были примерно за час до смерти».

Чувство омерзения вызывает поведение уличенного в преступлении Буданова. На одном из первых допросов он заявил, что не мог изнасиловать Кунгаеву, поскольку является импотентом. Позже он пытался симулировать психическое расстройство. Защита Буданова с самого начала раскручивала версию, что Хеда Кунгаева была снайпером. Через своего адвоката и Буданов заявил: «Я очень сожалею о том, что произошло. Я не собирался душить эту девушку. Но хочу подчеркнуть, что это бьша не просто девушка, а снайпер, враг, который лишил жизни не одного моего офицера».

Несмотря на все усилия, прилагаемые следователями, доказать хоть какую-то связь кого-либо из семьи Кунгаевых с боевиками не удалось. «Прежде чем рассуждать и винить мою дочь, сначала подумайте. Поставьте себя и своих детей на наше место, говорить неправду не захочется. Но не дай вам Бог испытать такое горе. Мы, родители и жители села, хотим одного; чтобы суд над этим зверем, иначе его не назовешь, был объективным, чтобы судили его по закону. Мы, все жители села, подтверждаем, что Хеда-ученица 10 класса, а не снайпер», — заявили в письме генпрокурору РФ родители Хеды Кунгаевой. Это письмо подписали все 488 жителей села Танги.

28 февраля 2001 года в Ростове-на-Дону процесс над Будановым начался со скандала. За полчаса до открытия заседания к зданию суда стали стягиваться пикетчики. В основном это были представители ростовских отделений РНЕ и НБП, а также вездесущие казаки. Плакаты гласили: Буданов-герой России», «Слава полковнику Буданову», «Зачистим Ичкерию по методу Берии».

Кстати, Буданов в свое время служил в нашей стране и демонстративно отказался присягнуть независимой Беларуси.

Фоном всего судебного заседания служили выкрики пикетчиков. Истеричные женщины чуть не избили человека, развернувшего плакат с надписью: «Буданов —насильник и убийца». Оскорблениям подверглись представители потерпевших. Адвокат семьи Кунгаевых, заслуженный юрист России Абдула Хамзаев, даже заявил ходатайство о переносе слушаний в чеченское село Танги или в Страсбург, поскольку в Ростове на суд оказывается давление. Однако судья данное ходатайство отклонил. Слушание дела несколько раз переносилось, а 5 марта случился инфаркт у матери Хеды Кунгаевой.

По делу Буданова тем временем продолжают высказываться различные высокопоставленные личности. Генерал Шаманов, бывший командир Буданова, а ныне губернатор Ульяновской области, вызванный в суд в качестве свидетеля, громогласно заявил: «Ответственно заявляю, что Буданов не виноват, и никому не удастся его обвинить. Говорю это не из ложного чувства корпоративной солидарности, а потому, что есть надежда на объективный суд. Полковник Буданов — это настоящий офицер, это командир, это достояние Россию. Командующий Северо-Кавказским военным округом Геннадий Трошев, недавно назвавший Шаманова предателем, теперь в унисон с ним заявляет: «О Буданове могу сказать как о настоящем боевом российском командире. Как офицер я против судебного процесса, потому что Буданов честно выполнял свой военных долг. Можно понять его психологическое состояние, когда снайпер убивает 12 твоих подчиненных. В девушке он узнал снайпера, на то, наверное, имелись основания».

За всем этим славословием в адрес Буданова многие, кажется, позабыли о судьбе несчастной чеченской девушки, волей случая оказавшейся на пути пьяного подонка.

*АНДРЕЙ ОДЛЯНИЦКИЙ, «Згода»*

# Правовой ликбез: почему полномочия Лукашенко закончились ещё в 1999 году

Многие, вероятно, слышали мнение о том, что полномочия Александра Лукашенко на посту президента Республики Беларусь закончились ещё в 1999 году. Но ещё мало кто детально разобрался в этой сложной ситуации, потому мы решили помочь интересующимся и предста вляем вашему вниманию соответствующее объяснение активного общественного и политического деятеля, менчанина, нашего друга Антона Артёменко.

*«Верас»*

Известно, что по официальной версии, в 1996 году вступила в силу не новая конституция, а только изменения и дополнения в существовавшую. Она так и называется официально: «Конституция Республики Беларусь 1994 года с изменениями и дополнениями, принятыми на республиканском референдуме». То есть хотя мы в обыденной речи и говорим «Конституция 1996 года» и «Конституция 1994 года», но _юридически_ Конституция существует всего одна, 1994 года, в которую в ноябре 1996 года были, по версии Лукашенко, внесены изменения и дополнения (а по версии о ппозиции — не были внесены из-за фальсификаций). И день вступления в силу этой конституции — не 24.11.96 (в этот день она была не *принята, а изменена и дополнена*, если верить властям). День вступления в силу этой Конституции — 15.03.94, поэтому он а и называется Конституцией 1994 года. И День Конституции официально отмечается 15-го марта, Лукашенко не отменил этот государственный праздник, а просто объявил нерабочим днем, вроде 23-го февраля.

Точно так же было и с Конституцией 1977 года: изменения и дополнения вносились в нее много раз, но она все равно оставалась Конституцией 1977 года.

Теперь о сроке полномочий. Статья 144-я «измененной и дополненной» Конституции полностью звучит так: «Президент Республики Беларусь сохраняет свои полномочия. Срок его полномочий исчисляется со дня вступления в силу настоящей Конституции.» То есть — с 1 5.03.94. А срок этот, в соответствии со статьей 81 «измененной» Конституции — пять лет. То есть закончился он 16.03.99.

Разумеется, Лукашенко доложили, что он «лажанулся», сам себя перехитрил. И его «юристы» стали вилять: где надо, пишут, что в 1996 году вступила-таки в силу *новая* Конституция (чтобы пятилетний срок считать именно с ноября 1996-го), а где надо — что ни фига, всего лишь изменения в старую (это потому, что новую Конституцию принимать на референдуме нельзя, можно только в старую изменения и дополнения вносить).

Но их виляния бессмысленны: у кого есть память — тот помнит, что



референдум был не о новой Конституции, а о внесении изменений и дополнений.

В любом случае, вопрос об окончании власти Лукашенко решится не в спорах «94 или 96», а на выборах 2001 года.

*Антон Артёменко*

# Спасіба за пялямені

«Наўгародзкі мясны двор» заваліў менскія гастраномы расейскімі пяльменямі ў ружовых пачках, усе надпісы на якіх дубляваліся па-беларуску. Адухоўленае такой павагай, Таварыства беларускай мовы (ТБМ) неадкладна даслала ў Ноўгарад ліст, у якім «падтрымала добры пачын вытворцаў» і выправіла недакладнасьці і памылкі. Апошніх, дарэчы, ніяк ня менш за 14.

Чаму ж гэткая мядзьведзяватая ветлівасьць выклікала такі імпэт? Калі абстрагавацца й не ўспрымаць нас як нас і Расею як Расею — ды што тут гэткага? Звычайная зьява — інфармацыя пра прадукт падаецца на мове краіны, дзе ён прадаецца. Так мае быць. Гэта адпавядае міжнароднай практыцы ды элемэнтарнай этыцы. І дзякаваць імпартэру за такую ласку — тое самае, што вітаць воплескамі прыезд сьмецьцявоза. Тым больш, што памылкі папросту жахлівыя: «пялямені» «энергетычна каштаўнасць» альбо «хаваць пры тэмпературы». Дый пяльмені беларускія нашмат смачнейшыя!

Так выглядае справа з пункту гледжаньня здаровае лёгікі, якая, аднак, не спрацоўвае, калі гаворка йдзе пра Расею, якой мы пагарджаем і баімося, як затурканы гома саветыкус — непрадказальнага суседа-уркагана, якому закон не пісаны — можа бутэльку паставіць, а можа і жонку згвалціць.

Гаворка йдзе не пра рэальную РФ, а пра Расею, якая існуе ў нашым уяўленьні, на якую так зручна сьпісваць нашую ўласную баязьлівасьць, нежаданьне даваць сабе рады і адсутнасьць самапавагі. Геніяльны ППРБ здолеў адчуць гэтую струнку народнай душы й сьвядома дазволіў сьпіхнуць на сябе адказнасьць за нашае ўнутранае бязладзьдзе й духоўную нішчымніцу. І панёс гэты цяжар на сьвет цэлы. Дазволіў нам адкласьці на далёкую гістарычную пэрспэктыву памкненьне «людзьмі звацца» (чаму перад прыбалтамі такая праблема ніколі не паўставала?) — і зьвязаную з гэтым адказнасьць.

Мы дагэтуль жывем ва ўяўнай краіне, дзе пануе права сілы, дзе можна забіць — і ўсе будуць маўчаць, дзе ніхто нікому нічога ня вінны. Прычым АМОН, «палатка», нават Лукашэнка — адыгрываюць тут другасную ролю. Нічога б яны не зрабілі, каб мы, у большасьці сваёй, ім не дазволілі, каб сваёй штодзённай няўпэўненасьцю, канфармізмам, які прымушае нас пераходзіць на расейскую ў мясным аддзеле гастраному (або, у выпадку скрайняга патрыятызму, «падшукваць нэўтральныя выразы»), не пацьвердзілі, што жадаем жыць менавіта пры такім палітычным ладзе. Гэткая няўпэўненасьць ва ўласнай вартасьці, запабеглівая ўсьмешачка на вуснах, адсутнасьць самапавагі выклікаюць абыякавае стаўленьне да справы, якую-робіш, — менавіта таму столькі халтуры ў нашай навуцы, культуры, палітыцы. Таму й ня маем вынікаў і мусім па-дзіцячаму радавацца пры кожным сутыкненьні з элемэнтарнай чалавечай ветлівасьцю, не здагадваючыся, што яна мусіць быць нормай жыцьця.

*Сяргей Мікулевіч, «Наша Ніва»*

# Наш Домаш

*Сямён Домаш пра палітыку і не толькі*

Увосень бягучага года адбудуцца доўгачаканыя прэзідэнцкія выбары. Гэта будзе першы шанс пазбавіцца крызіса, зьмяніць уладу, таму да такой падзеі неабходна падыходзіць з усёй адказнасцю. Усведамляе гэта і апазіцыя, таму зараз ідуць перамовы паміж усімі апазіцыйнымі палітычнымі партыямі Беларусі, пачынаючы ад БНФ і скончваючы камуністычнай партыяй КПБ, аб вылучэнні адзінага кандыдата на пасаду прэзідэнта, як гэта было ў Югаславіі з Каштуніцам. Сярод разглядаемых асобаў ёсць Сямён Домаш, і зараз пра яго выказваюцца як пра найбольш перспектыўнага кандыдата. «Верас» вырашыў азнаёміць чытачоў са сп. Домашам, таму на працягу некалькіх нумароў мы будзем друкаваць адпаведныя матэрыялы, якія, мы перакананыя, выклікуць вялікую цікаўнасць.

Сямён Домаш нарадзіўся ў 1950 г. у Ляхавіцкім раёне Берасьцейскай вобласці. Мае тэхнічную і вышэйшую эканамічную адукацыю. Шмат гадоў прапрацаваў у сыстэме аўтатранспарту, быў дырэктарам Гарадзенскага аўтакамбіната №1. 1987-1990 — старшыня Лідзкага гарвыканкаму. 1990-1993 — старшыня Гарадзенскага гарвыканкаму. У 1993-1994 быў губэрнатарам Гарадзенскай вобласці. З 1994 узначаліў Гарадзенскі абласны Савет дэпутатаў і аблвыканкам. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га склікання. Член Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета з мая 1995 года. Займаўся пытаннямі мясцовых саветаў дэпутатаў, кантактамі зь беларускай дыяспарай, пытаннямі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэньня дзейнасьці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Падчас лістападаўскага рэфэрэндума 1996 года выступіў супраць А. Лукашэнкі, падпісаўшы імпічмэнт. Адзіны рэгіянальны лідар, які адкрыта перайшоў у апазіцыю да прэзідэнта. З 1999 узначальвае аб'яднанне «Рэгіянальная Беларусь» — структуру, якая аб'ядноўвае дэмакратычныя арганізацыі і аддзяленьні партыяў і рухаў у рэгіёнах краіны. Кіраўнік аб'яднання «Гарадзенская ініцыятыва». У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў прадстаўляе Гарадзенскую вобласць. Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, мае двох сыноў. Праваслаўны. Беспартыйны. За прыклады ў палітыцы ўважае Вітаўта Вялікага, Вацлава Гавэла і Рональда Рэйгана.

*Рэдакцыя «Вераса»*

*— Як думаеце, Сямён Мікалаевіч, пусцяць Вас на беларускае тэлебачанне?* Домаш засмяяўся. Я таксама. Недарэчна задаваць пытанне, адказ на якое відавочны. Вось гісторыя з сынам Чыгіра — які дзень Міхаіла Мікалаевіча з-за яе на БТ ганьбяць, а далі яму хоць слова сказаць у адказ? У тым і справа... Чаму Домаш на іншыя адносіны павінен разлічваць? Ён зараз з Чыгіром і Ганчарыкам у адной катэгорыі — паскудныя нягоднікі, якія адважыліся заявіць, што на прэзідэнцкіх выбарах маюць намер спрачацца з самім Аляксандрам Рыгоравічам. Ужо таму падлягаюць камандзе «Мочить в сортире!» Добра, няма чаго чакаць літасці ад прыроды. Проста у такой сітуацыі мы лічым сваім маральным абавязкам зрабіць тое, што па логіцы павінны зрабіць дзяржаўныя СМІ, якія ўтрымліваюцца на грошы падаткаплацельшчыкаў (і, такім чынам, абавязаныя быць аб'ектыўнымі): даць выказацца аднаму з патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду. І вось уключаем дыктафон — а вы пра майго суразмоўцу мяркуйце самі.

*— І усё-ткі Вас, Сямён Мікалаевіч, пакуль меней, чым іншых дзяўбуць. Як думаеце, чаму?*

— Відаць, чарга не дайшла. Ці кампрамат яшчэ не накапалі. Яны ж адкрытай размовы баяцца, аддаюць перавагу правакацыі спадцішка. А не знойдуць нічога — прыдумаюць.

*— Значыць, удараў чакаеце?*

— Асабіста я па ўсіх пазіцыях чысты. Ну, была гісторыя з домам, з-за якой маё імя доўга бузавалі, але ж абвінаваціць у нейкіх учыненых мною парушэннях так і не здолелі. *(У бытнасць старшынём Гарадзенскага аблвыканкама Домаш са сваёй сям'ёю па патрабаванні органау КГБ і МУС, што ажыццяўлялі яго ахову, здаў гораду сваю раней прыватызаваную кватэру і перасяліўся ў дом. Калі Лукашэнка пазбаўляўся ад чыноўнікаў, на якіх не мог разлічваць асабіста, гэтая гісторыя Сямёну Мікалаевічу была пастаўленая ў віну. І хаця высветлілася, што да самога Домаша прэтэнзіяў быць не можа — шэпт застаўся: ці то ён шубу скраў, ці то ў яго скралі... — заўв. рэд.).* Не, шчыра кажучы, калі зноў гісторыю з домам вывалакуць, можна толькі радавацца — значыць, усё ў парадку: ні па мне, ні па маіх сваяках больш зачапіцца ні за што не здолелі. І давядзецца ім нешта з пальца высмоктваць. А я... Мне за сваё жыццё не сорамна.

**«Мне за жыццё не сорамна...»**

*— Ну тады давайце за жыццё і пагаворым. Вы нарадзіліся ў 1950 годзе ў Берасцейскай вобласці, у Ляхавіцкім раёне...*

—...у вёсцы Тумашы. Бацькі — шэраговыя калгаснікі, працаўнікі надзвычайныя... Бацька займаўся цяслярствам. Ён з фронту прыйшоў інвалідам, увесь зранены, без вока, але майстрам быў цудоўным. Грошай вялікіх у калгасе не плацілі, выручаў сад — бацькоўскімі намаганнямі кожны год збіралі выдатныя ураджаі. І потым бацька аж да Масквы дабіраўся, яблыкі прадаваў. Усё, што зарабляў, адкладалася на новы дом, бо наша хата зусім развальвалася. Вельмі доўга адкладвалася, па капейчыне. Нарэшце — я тады быў у шостым класе — пачалі будавацца. Гэта галоўны успамін дзяцінства — мы разам з бацькам будуем дом! Вельмі цяжкая, з салёным потам, але радасная праца. Я практычна ўсё навучыўся рабіць. Пазней куды б ні пераязджаў — ні сантэхнікаў, ні сталяроў-маляроў ні разу не клікаў. Любая хатняя справа — сваімі рукамі. І сыноў таму ж навучыў. Бацькоўскі дом дагэтуль адзін з лепшых у вёсцы. Бацька, на жаль, ужо год як памёр. Маці старэнькая, часта хварэе, жыве ў сястры ў Баранавічах, але ўлетку мы яе ў Тумашы прывозім. І, як веснічкі адчыняю, мне кожны раз падаецца, што на падворку зноў пахне свежай смалістай стружкай.

*— А што было потым?*

— Пасля школы я паступіў у Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум. Вучыўся на механіка па рамонту аўтамабіляў. Там жа навучыўся абараняць сябе, боксам заняўся. Бабруйск жа тады быў даволі хуліганскім горадам. Скончыў тэхнікум, паехаў па размеркаванні у Астравец, што у Гарадзенскай вобласці. Механікам аўтабазы N4. Увогуле працаваў там больш за восем гадоў. У Астраўцы і ажаніўся, жонка ў Доме культуры працавала. Дваццаць гадоў мне было.

*— Рана...*

— Што значыць — рана?.. Я ўжо ж не пацан быў! Зменны механік, сур'ёзны чалавек. Зрэшты, адчуванне юнацтва з-за сур'ёзнасці працы неяк знікла. Людзей не хапала, так што час ад часу перакідвалі то ў механікі кантрольна-прапускнога пункту, то выконваючым абавязкі загадчыка гаража, то забеспячэнца... Наша аўтабаза займалася яшчэ і аўтобусным абслугоўваннем раёна. 27 машынаў, з іх 23 (чатыры ў рэзерве) кожную раніцу кроў з носу павінны выйсці на лінію. Пры гэтым ва ўсім раёне толькі дзевяць (!) кіламетраў добраўпарадкаваных дарог. Увечары 19-20 машынаў ледзьве чыкільгаюць — зноў рысоры накрыліся. А ў цябе вячэрняя змена, і зразумела, што не ўправішся — зноў давядзецца сваіх мужыкоў-рамонтнікаў пакідаць на начную. А мужыкі не хочуць! Праца ў іх цяжкая, брудная, няўдзячная, хтосьці ў закутку ўжо свае 100 грамаў прыняў, нехта прыняць настроіўся. Ці проста ў чалавека жонка ў шпіталі ды дзеці

